Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by

Выдаецца са снежня 1994 года

**Выдавец:** Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК. Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

№7(619) 16 лютага 2012 года. Кошт свабодны.

Марозная раніца.



Photo ByMedia.net

Докшыцкі раён

# Цыгарэта-забойца

■ Станіслаў Раманчук

**З сярэдзіны 80-х гадоў мінулага стагоддзя не бачыла Беларусь, як і іншыя краіны кантынента, такіх моцных маразоў і снегападаў.**

І не выпадкова паўсюдна павысілася колькасць розных здарэнняў, пажараў і аварый на дарогах. У гэту сумную статыстыку трапіла і вёска Асавок Докшыцкага раёна, дзе адзін з беспрацоўных мясцовых жыхароў пусціў да сябе жыць у хату свайго земляка. Новы кватарант, праўда, яшчэ меў працу жывёлавода на калгаснай ферме, а аб'яднала гэтых двух вяскоўцаў цяга да рэгулярнага ўжывання спіртных напояў. Напярэдадні сябрукі парадаваліся атрыманню чарговай зарплаты і вырашылі гэту падзею добра "замачыць". Вось толькі нашы людзі, як правіла, меры выпітага не ведаюць і ў выніку - ноччу ў доме ўзнік пажар ад непатушанай цыгарэты. Праўда, гаспадар прачнуўся ад моцнага дыма. Спробы самастойна справіцца з ўзгараннем поспехам не скончыліся, і ён пабег за дапамогай да суседзяў, якія выклікалі пажарных. У гэтай мітусні ўсе і забыліся, што ў палаючым доме быў яшчэ віноўнік вогненнай біды. Яго абгарэлае цела знайшлі потым сярод папялішча пасля ліквідацыі пажару. 40-гадовы вясковец, гаспадар згарэлай хаты стаў пагарэльцам і вымушаны шукаць, дзе перажыць халады. У такой жа сітуацыі апынуўся і адзінокі пенсіянер з вёскі Стрынадкі Глыбоцкага раёна, жыццё якому выратаваў аўтаномны пажарны апавяшчальнік. Самога пагарэльца забрала да сябе жыць яго дачка.

Верхнядзвінскі раён

# Крызіс дабраўся і да музея

■ Чэслаў Якубовіч

**Услед за іншымі гарадкамі краіны значна папрыгажэў і быццам памаладзеў і такі райцэнтр вобласці, як Верхнядзвінск.**

Аднак у гэтым прыгожым мястэчку на берагах адразу дзвюх рэк з багацейшай гісторыяй і 28 рознымі помнікамі археалогіі і 10 – архітэктуры дагэтуль не было свайго музея. Нягледзячы на гэта, шэраг мясцовых краязнаўцаў, настаўнікаў на чале з кіраўніком рабочай групы па стварэнню гісторыка-краязнаўчага музея Антонам Бубалам збіралі гадамі каштоўныя экспанаты для будучай кампазіцыі. Грамадскасці пайшлі насустрач і нават выдзелілі ў цэнтры горада для размяшчэння раённага музея прасторны будынак былога суда. Само памяшканне 1888 года пабудовы ідэальна падыходзіць для такой установы, бо яе ўзвёў яшчэ за царскім часам мясцовы абутковы фабрыкант Канавалаў. У будынак ужо завезлі багацейшы музейны архіў, у самай прасторнай зале судовых пасяджэнняў нават правялі шэраг культурных імпрэз. Каб прыдаць будынку сучасны выгляд, у ім вырашылі правесці капітальны рамонт. Вось толькі выбухнуў летась усеабдымны эканамічны крызіс, рэзка падаражэлі будматэрыялы і кошт рамонтных работ. Ад сваёй задумы ў райцэнтры не адмовіліся і спадзяюцца, што можа сёлета да канца года ўдасца завяршыць у асноўным рэстаўрацыю памяшкання. Сродкі на гэта выдзеленыя з мясцовага бюджэту, і толькі непакоіць энтузіястаў, каб іх хапіла на заканчэнне работ. Пакуль жа тысячы сабраных каштоўных экспанатаў і рарытэтаў знаходзяцца разам ў адным з пакояў і захоўваюцца ў некамфортных умовах.

Пастаўскі раён

# Злодзею мароз не страшны

■ Кастусь Александровіч

**Апошнім часам у вобласці самая спакойная крымінагенная абстаноўка застаецца на тэрыторыі двух самых заходніх раёнаў – Пастаўскага і Браслаўскага, дзе зніжаецца ўзровень злачыннасці.**

Аднак пры гэтым паўсюдна фіксуецца нястрымны рост крадзяжоў маёмасці, усё часцей больш дзёрзкіх і дзіўных. Вось і на Пастаўшчыне толькі ў студзені па такіх фактах было ўзбуджана 17 крымінальных спраў. Аматараў лёгкай нажывы не напужалі нават моцныя маразы. У адзін з зімовых дзён зламыснікі змаглі падабраць ключы да асабістага аўтамабільнага гаража старшыні Ваўкоўскага сельсавета Таісы Баторы ў двары яе дома. Адтуль злачынцы забралі нават паліва, маторнае масла і тасол, якое належыла сельвыканкаму, паколькі гаража для службовай машыны гэты самы аддалены ад райцэнтра сельсавет не мае. Самае сумнае, што – гэты быў не адзін такі падобны факт у раёне, паколькі міліцыя вядзе цяпер следства і яшчэ па двух цалкам падобных фактах. У шэрагу выпадкаў на Пастаўшчыне злодзеі дзейнічалі больш нахабна, ноччу ламалі сценкі гаражоў і кралі акумулятарныя батарэі з аўто, бензін, іншую маёмасць, якая там захоўвалася. Такая серыя крадзяжоў працягваецца ўжо некалькі месяцаў, а абкраданні дач і пакінутых без нагляду жылых дамоў на вёсцы і нават у горадзе – сталі проста рэгулярнымі. Найчасцей цяпер крадуць мабільныя тэлефоны, грошы, сапраўднае паляванне ідзе за каляровымі металамі, посудам і нават бялізнай.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 16.02.12 | | | | Пятніца 17.02.12 | | | | Субота 18.02.12 | | | | Нядзеля 19.02.12 | | | | Пнд. 20.02.12 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -16 | -19 | -9 | -15 | -18 | -20 | -10 | -14 | -16 | -17 | -7 | -9 | -8 | -6 | 0 | -2 | -5 | -6 | 0 |
| Ціск | 741 | 745 | 747 | 748 | 748 | 748 | 748 | 748 | 747 | 747 | 747 | 746 | 743 | 740 | 741 | 742 | 743 | 745 | 747 |
| Вільготнасць | 92 | 93 | 83 | 90 | 91 | 92 | 80 | 90 | 89 | 90 | 84 | 89 | 96 | 99 | 93 | 88 | 92 | 99 | 89 |
| Вецер м/сек | 2 В | 2 В | 1 С-В | 2 С-В | 1 В | 1 Ю | 3 Ю | 4 Ю | 4 Ю | 5 Ю | 5 Ю | 6 Ю | 8 Ю | 9 Ю | 7 Ю-З | 6 Ю-З | 6 Ю-З | 6 Ю-З | 5 З |

# Лічба нумара

## 38100

– столькі кароў, як вельмі смела зноў заявіў днямі беларускі прэм'ер-міністр Міхаіл Мясніковіч на пасяджэнні Прэзідыума Саўміна, страціў летась айчынны аграпрамысловы комплекс. Лічбы гэтыя – проста жахлівыя, бо дзе яшчэ на кантыненце знойдзеш краіну, якая б за адзін год па розных прычынах "згубіла" трэцюю частку свайго пагалоўя. Верагодна, сітуацыя на калгасных фермах проста дапякла кіраўніка ўрада, што ён стаў казаць горкую праўду-матку, праўда, у той час, як беларускі лідар адправіўся на традыцыйны зімовы адпачынак катацца на горных лыжах пад Сочы.

Але трэба аддаць належнае нашаму прэм'еру: ён раней прама казаў, што фінансавы крызіс і абвал, рост цэн выклікалі ў РБ менавіта патрабаванні прэзідэнцкай адміністрацыі па друкаванню пустых грошай і росту доларавых заробкаў. А дагэтуль так у нас хваліліся, што Беларусь – адна з першых краін у СНД у сферы сельскай гаспадаркі дасягнула і перавысіла ўзровень дакрызіснага яшчэ 1990 года, забяспечвае Харчовую бяспеку краіны. Быццам паспяхова на паперах выканана і Дзяржаўная праграма адраджэння і развіцця беларускай вёскі. Рапартуем, што і па вале айчынныя калгасы ў 2011 годзе быццам амаль справіліся з валавым ростам вытворчасці на 6,6 % (гадавое заданне было 7-8 %).

На экспарт летась гэта галіна адгрузіла прадуктаў харчавання, сапраўды, на 3,7 млрд. долараў і павялічыла такія пастаўкі адразу на 20 %. Вось толькі яшчэ рана сцвярджаць аб рэальных устойлівых зменах у развіцці аграрнага сектара Беларусі, хоць абнаўляецца машына-трактарны парк, шмат будуецца сучасных жывёлагадоўчых ферм і комплексаў. Аднак пры гэтым, вось парадокс, як заявіў таксама нядаўна на нарадзе аграрыяў у Горках віцэ-прэм'ер па АПК В. Іваноў, толькі летась калгасы дапусцілі падзёж 70 тысяч цёлак па прычыне іх дрэннага кармлення.

У нас на паперы ў асноўным вырашылі праблему стратных гаспадарак. Аднак на 1 снежня 2011 года, па дадзеных Белстата, розныя даўгі гаспадарак дасягнулі агромістай лічбы, амаль 60 трыльёнаў рублёў (іх рост склаў 36,6 %). Эфектыўнасць вядзення сельскай гаспадаркі ў Беларусі па-ранейшаму яшчэ вельмі нізкая, паколькі на 1 рубель таварнай прадукцыі з дзяржбюджэту неабходна выдзяляць амаль столькі ж датацый. Нашы калгасы павінны вярнуць дзяржаве толькі па ўзятых у банках крэдытах 37,7 трлн. рублёў.

Быццам удалося стварыць каля паўтары тысячы аграгарадкоў і буйных таварных гаспадарак. Аднак не ўсе аб'екты, згодна такіх праграм, там узведзены; беларускае мяса і малако па цэнах становяцца ўсё больш дарагімі. Той жа тварог стаў недаступным для многіх слаёў насельніцтва з-за сваёй дарагавізны. Цікава, што нават на 2010 год ставілася задача дабіцца, каб сельскія працаўнікі атрымоўвалі зарплату 320-360 долараў штомесяц. У выніку цяпер вяскоўцы (і не толькі яны) за шчасце лічаць, калі ўдасца прынесці дамоў хоць долараў 150.

Моладзь нешматлікая, якая засталася жыць і працаваць на вёсцы, практычна не займаецца асабістай прысядзібнай гаспадаркай, не вырошчвае жывёлу на падворках. І самае сумнае і відавочнае, што калі нават Беларусь з цягам часу забяспечыць АПК тэхнічнай базай XXI стагоддзя, створыць, як задумваецца, вертыкальныя інтэграваныя прадуктовыя кампаніі (слова якое разумнае прыдумалі), не загляне сонца ў беларускую хатку. Паколькі няма ў ёй сапраўднага гаспадара на зямлі, адсутнічае і прыватная ўласнасць на галоўны сродак вытворчасці.

А без гэтага беларусам ніколі не ўдасца выйсці на ўзровень сельскай гаспадаркі, дасягнуты эканамічна развітымі краінамі Еўропы і свету. Не палепшыцца ў глыбінцы і дэмаграфічная сітуацыя. У перспектыве вакол цэнтраў сельсаветаў, якія застануцца, будзе сапраўдная пустыня, большасць маланаселеных вёсак вымруць канчаткова. Пакуль жа можна згадзіцца з беларускім прэм'ерам, які падкрэсліў, што пакуль вялікага развіцця айчынны АПК не атрымаў, працягвае таптацца на месцы. А час ідзе, уступленне Расіі, асноўнага пакупніка нашага харчавання, у СГА толькі зніжае канкурэнтаздольнасць РБ на міжнародных рынках, дзе фермеры проста не дапускаюць падобных страт пагалоўя.

## Дзень за днём

**Эксперты Еўразійскага банка развіцця заявілі, што рана гаварыць аб стабілізацыі беларускай эканомікі на фоне негатыўных знешніх працэсаў і скарачэння попыту. Павышаныя ў лютым на 24 % працоўныя пенсіі атрымаюць больш 2,4 мільёнаў жыхароў Беларусі. А вось увоз іншамарак беларусамі летась у 2-м паўгоддзі скараціўся ў 60 разоў. Працоўная група Балонскага працэсу заявіла, што Беларусь пакуль не гатовая далучыцца да Еўрапейскай прасторы вышэйшай адукацыі і ўзаемнага прызнання дыпломаў. Наша краіна адзіная на кантыненце не ўваходзіць у гэту арганізацыю за ідэалагічны ціск на студэнтаў і за праследванні іншадумства ў ВНУ, аднак задумала ўвесці неўзабаве біяметрычныя пашпарты.**

# Важнейшыя навіны свету

**Францыя.** Генсек ПАСЕ Т. Ягланд заклікаў улады РБ не караць смерцю Канавалава-Кавалёва, запатрабаваў вызваліць з турмы праваабаронцу А. Бяляцкага, іншых палітычных вязняў.

**Расія**. У прэзідэнцкіх выбарах, якія адбудуцца 4 сакавіка, барацьбу за пасаду расійскага лідара вядуць 4 кіраўнікі парламенцкіх партый і паспяховы бізнесмен Міхаіл Прохараў.

**Бельгія.** У адказ на пагаршэнне сітуацыі з правамі чалавека ў РБ Савет Еўрасаюза пашырыў персанальныя санкцыі супраць беларускіх чыноўнікаў, датычных да рэпрэсій.

**ЗША.** Пентагон вырашыў пашырыць у арміі глабальную сетку самалётаў-беспілотнікаў і без войскаў спецназа па праекту павелічэння амерыканскай ваеннай магутнасці ў свеце.

**Грэцыя.** Нават у крызіс, па дадзеных Еўрастата, цэны тут за 2011 год выраслі на 2,2 %, няма "роўных" у Еўропе Беларусі з інфляцыяй 108,7 %, за ёй Расія (6,1 %), па ЕС – 3 %.

**Францыя.** Краіна памяняла правілы атрымання грамадзянства: кандыдаты на яго павінны здаць моўны экзамен, і вярнула Новай Зеландыі 20 муміфікаваных галоў воінаў маоры.

**Румынія.** Главу МЗС Тэадору Баконшы адправілі ў адстаўку толькі за абразу ўдзельнікаў масавых акцый пратэсту, якіх ён публічна назваў "злымі і бязмозглымі галадранцамі".

**КНДР.** Праз 7 гадоў жыхарам напоўгаладнай краіны зноў выдалі бясплатныя харчовыя пайкі рысу, кукурузных круп і талоны на рыбу на 3-5 дзён, але іх усім не хапіла.

**Карэя.** Кампанія Kia Motors Corp адазвала амаль 146 тысяч сваіх аўтамабіляў ў ЗША 2006-2008 гадоў выпуску з-за патэнцыйных магчымых дэфектаў сістэмы падушак бяспекі.

**Латвія.** Глава МЗС Эдгар Рынкевічус параіў калегу ў РФ С. Лаўрову і ўсім незадаволеным "нацменам" уважліва прачытаць новы артыкул Пуціна па нацыянальнаму пытанню.

**Расія.** Кандыдат у прэзідэнты РФ М. Прохараў прапанаваў правесці рэферэндум аб пахаванні астанкаў цела Леніна пахрысціянску, каб развітацца з мінулым дзеля будучага.

**Польшча.** Вядомая фірма фарбаў "Снежка" аплаціла расходы на лячэнне ў Беластоку ў суме 9 тыс. $ неданошанага сына беларускі, якога яна нарадзіла паблізу граніцы з РБ.

**Грэцыя.** На здымачнай пляцоўцы новага фільма "Іншае мора" ў Афінах матацыкліст днём насмерць збіў сусветна вядомага 76-гадовага кінарэжысёра Тэадораса Ангелопуласа.

**Фінляндыя.** Расійская 26-гадовая пісьменніца П. Жарабцова папрасіла тут палітычнага прытулку пасля пагроз і нападзення з-за выхаду яе праўдзівай кнігі пра чачэнскую вайну.

**Ірландыя.** З-за моцнай магнітнай буры на Сонцы жыхары краіны і суседняй Шатландыі ўбачылі рэдкую прыродную з'яву для гэтых шырот – сапраўднае Сонечнае ззянне.

# Беларусаў працягваюць рыхтаваць да павышэння пенсійнага ўзросту



■ afn.by

**У Беларусі дэмаграфічная нагрузка на працаздольнае насельніцтва да 2030 года, паводле прагнозаў, узрасце на 30%, паведаміла міністр працы і сацыяльнай абароны Мар'яна Шчоткіна, адзначыўшы, што ў цяперашні час на 100 чалавек у працаздольным узросце (іх у краіне налічваецца 5,8 млн) прыпадае 63 чалавекі ва ўзросце, старэйшым за працаздольны.**

«Рэзкі рост колькасці насельніцтва старэйшага ўзросту запатрабуе значнага павелічэння выдаткаў на пенсійнае забеспячэнне, арганізацыю спецыяльнай сацыяльнай дапамогі», — канстатавала міністр, якую цытуюць дзяржСМІ.

Па выніках 2011 года колькасць атрымальнікаў пенсій узрасла на 18 тыс. чалавек і дасягнула амаль 2,5 мільёна.

Рэшткі сродкаў на 1 студзеня 2012 года склалі Br9 трлн 51,3 млрд, або 375,7% да месячнай патрэбнасці на фінансаванне выплат пенсій у студзені.

Па словах міністра, запас трываласці Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва знізіўся: калі на 1 студзеня 2011 года за кошт рэшткаў сродкаў можна было забяспечваць выплату пенсій за 5 месяцаў, то цяпер — менш за 4 месяцы.

«Гэта своеасаблівы сігнал», — заявіла Шчоткіна.

У 2011 годзе бюджэт Фонду выкананы з прафіцытам: паступленні склалі Br29 трлн 493,2 млрд (97,2% складаюць страхавыя ўзносы працадаўцаў і індывідуальных прадпрымальнікаў), расходы склалі Br27 трлн 419,9 млрд (80,1% — на выплату пенсій, 17,5% — на дапамогу). Сума пратэрмінаванай пазычанасці перад Фондам зменшылася на Br25,4 млрд і на 1 студзеня 2012 года склала Br9,2 млрд.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** У "Белэнерга" пацвердзілі, што за перавышэнне ліміту спажывання электраэнергіі звыш нарматываў пасля іх увядзення насельніцтва будзе плаціць на 30 % даражэй.

**Мазыр.** Старшыня канцэрна "Белдзяржхарчпрам" І. Данчанка заявіў, што не плануецца прадаваць ААТ "Мазырсоль", яго вельмі хочуць набыць буйныя расійскія кампаніі.

**Мінск.** МЗС Беларусі заступіўся за Іран, супраць якога маштабныя эканамічныя санкцыі ўвёў Еўрасаюз услед за ЗША за спробу стварэння ісламістамі ядзернай зброі.

**Салігорск.** У стадыі перамоў знаходзіцца пытанне аб набыцці Індыяй, як пацвердзіў яе пасол у Беларусі Манодж Кумар Бхуці, акцый ААТ "Беларуськалій" і паставак угнаенняў.

**Мінск.** Вядомы эканаміст Л. Заіка папярэдзіў, што ў РБ ідзе неабгрунтаванае павышэнне заробкаў і пенсій, што выклікае новую інфляцыю выдаткаў і далейшы развал эканомікі.

**Астравец.** Яшчэ каля 10 школ і садзікаў адкрыюць у райцэнтры акрамя АЭС, якая ўзводзіцца; тут таксама з'явяцца і Лядовы палац з басейнам, аднак лядовыя арэны вельмі стратныя.

**Мінск.** Ужо ў 2-м паўгоддзі сёлета стане даступнай у Інтэрнэце для ўсіх інтэрактыўная турыстычная карта Беларусі з рэестрам маршрутаў усіх айчынных экскурсій і тураў.

**Крычаў.** З-за затрымак паставак патрэбнага абсталявання з Кітая ўвод у строй новай лініі тут па выпуску цэменту сухім спосабам перанеслі на 3 месяцы пазней на 1 ліпеня 2012 г.

**Мінск.** Рэальнае беспрацоўе ў РБ, як заявіў былы міністр працы А. Сасноў, дасягае ўжо 10 %, няма падстаў для паляпшэння сітуацыі, беларусы масава едуць на працу за мяжу.

**Касцюковічы.** За замах на махлярства ў суме больш 43 млн. рублёў пракуратура распачала крымінальную справу супраць жанчыны, мясцовага кіраўніка кампаніі "Белнафтастрах".

**Мінск.** Пастаянны прадстаўнік МВФ у РБ Н. Калядзіна паведаміла аб прыбыцці аглядавай місіі фонду і заявіла, што ў беларусаў няма рэзерваў для росту ВУП сёлета на 5-5,5 %.

**Івацэвічы.** Да радасці жыхароў райцэнтра ўрад РБ запланаваў тут пабудаваць да 2015 года новы сучасны футбольны стадыён у ліку 5 такіх арэн і яшчэ 5 манежаў па ўсёй краіне.

**Лельчыцы.** Праверка Дзяржкантролю выявіла ў двух саўгасах раёна летась незаконнае атрыманне з бюджэту больш 100 тыс. еўра за быццам бы работы па павышэнню ўрадлівасці.

**Мінск.** Заслужаны трэнер СССР А. Рудскіх заявіў аб правалах і бедах айчыннай лёгкай атлетыкі, да Алімпіяды-2016 няма каго рыхтаваць, бо проста няма таленавітай моладзі.

**Барысаў.** У структуры ФК "БАТЭ" стала працаваць памочніцай старшыні пасля завяршэння кар'еры разыгрываючая зборнай Беларусі па баскетболе Наталля Марчанка.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Беларуская чыгунка пачала хадавыя выпрабаванні першага аднавагоннага дызельцягніка для мясцовага аддзялення, які створаны сумесна з Польшчай.

**Наваполацк.** Гарпракуратура выказала занепакоенасць ростам летась тут крымінальных злачынстваў на 21 % (да 1015 выпадкаў) і яшчэ больш – крадзяжоў і нават забойстваў.

**Орша.** У адным з лясных масіваў раёна браканьеры забілі бурую мядзведзіцу, якая занесена ў Чырвоную кнігу Беларусі, затрыманаму падазронаму пагражае да 6 гадоў.

**Глыбокае.** Да Дня беларускага пісьменства плануецца кардынальна змяніць выгляд двух галоўных плошчаў горада і нават быццам перанесці помнік Леніну ў парк Перамогі.

**Віцебск.** У двары свайго дома Аляксандр Шаляпнёў адбіў шуфляй 10-гадовую дзяўчынку ад злога ратвейлера, які пагрыз ёй руку, а потым адвёз пацярпелую ў бальніцу.

**Дуброўна.** Адразу 5 чалавек пацярпелі пры лабавым сутыкненні машын, на тэрыторыі Талачынскага раёна ў ДТЗ мікрааўтобуса з цягніком загінулі двое дзяўчат 20 і 18 гадоў.

**Полацк.** Міліцыя распачала крымінальную справу супраць бухгалтара Ветрынскай школыінтэрната, якая абакрала сірот на амаль 58 млн. рублёў, ёй пагражае да 12 г. турмы.

**Верхнядзвінск.** У райцэнтры упершыню правялі свята сыру, галоўнай падзеяй якога стала адкрыццё помніка Яну-сыраробу, асноўнаму брэнду мясцовага сучаснага масласырзавода.

**Талачын.** Натэрыторыі раёна электрычка швейцарскай фірмы Stadler падчас руху збіла насмерць лася, атрымала механічныя пашкоджанні, затрымка рэйсу склала 6 хвілін.

**Віцебск.** Пасля сустрэчы ў калоніі "Віцьба-3" з экс-кандыдатам у прэзідэнты Андрэем Саннікавым яго жонка заявіла, што ён выглядае як пасля 10 гадоў сталінскіх лагераў.

**Расоны.** У райцэнтры адкрылі "дзіцячы сад" для пажылых, яго наведваюць 20 чалавек, толькі ў райцэнтры жыве больш 120 такіх адзінокіх людзей, трэць раёна – пенсіянеры.

**Полацк.** З дыягназам агульнага пераахаладжэння арганізма даставілі ў бальніцу 43-гадовую жанчыну на падпітку, яна ледзь не патанула ў Заходняй Дзвіне ў 5 м ад берага.

**Ушачы.** На базе былой Казіміраўскай БШ расійская фірма "Маэстратур" пачала ўзводзіць туркомплекс "Азёрны рай" з 2 новымі домікамі для гасцей, тут побач 10 азёр.

**Глыбокае.** Адзінокая 86-гадовая пенсіянерка згарэла ад паўторнага перакалу печы ў вёсцы Стуканы, раней яна адмовілася перазімаваць у бальніцы сястрынскага догляду.

**Віцебск.** У абласной бібліятэцы расфарміравалі ў Год кнігі створаны яшчэ ў 1967 годзе аддзел беларускай літаратуры з фондам 23 тысяч асобнікаў для болей 5 тысяч чытачоў.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

Яўген Самсонаў

# «Беларуская лыжня-2012» ў Глыбокім

**Нават ранішні 25-і градусны мароз не распалохаў аматараў спорту глыбоцкага краю і не перашкодзіў правядзенню спартыўнага свята “Беларуская лыжня-2012” , якое адбылося 11 лютага на беразе маляўнічага возера Белае паблізу Глыбокага.**

Першымі а 9.30 пачалі спаборнічаць самыя адважныя аматары падлёднага лову. Люты ёсць люты. Ціск зашкальваў, вецер паўночна-ўсходні, тэмпература – мінус 25 ды й возера Белае чамусьці амаль 10 год "глухое", хаця рыба там ёсць. З раніцы не клявала, а потым, калі а 11-й гадзіне зайграла музыка і балельшчыкі пачалі гучна падтрымліваць сваіх лыжнікаў, то і зусім перастала. Тым не менш пераможца вызначыўся. Ім стаў А. Русак з каманды ПЭС, злавіўшы падлешчыка грам пад 400.

Заяўкі на ўдзел у «Беларускай лыжні -2012» падалі звыш 20 каманд з арганізацый і прадпрыемстваў, працоўных калектываў раёна. Мерапрыемства праходзіла з запалам, весела і цікава. Сапраўдных спартоўцаў лыжня заманьвала. Некаторыя з іх рабілі па некалькі забегаў. Леанід Корнышаў (ЖКГ), выйграўшы з вялікім адрывам забег сярод кіраўнікоў арганізацый, даказаў, што ён мацнейшы і сярод мужчын ва ўзроставай катэгорыі 40 год і старэй.

Кожны прысутны меў магчымасць завітаць у палатку-сталоўку сагрэцца і бясплатна падсілкавацца. Усяго было ўволю – бутэрброды, юха, каша, кава, гарбата, пячэнне – што толькі душа пажадае.

Праграма свята “Беларуская лыжня-2012” складалася з звыш дзесяці спартыўна-масавых мерапрыемстваў. Згодна пратакола судзейскай калегіі і кампетэнтнага журы былі адзначаныя пераможцы і прызёры ва ўсіх намінацыях, якія былі ўзнагароджаныя адпаведнымі ганаровымі граматамі і каштоўнымі падарункамі. Узгадаю прозвішчы пераможцаў па лыжных гонках: А. Уткін, Н. Няміра – сярод работнікаў райвыканкама; К. Чыжэўскі, А. Вязьменава – бюджэтныя арганізацыі; Ф. Цярэшка, Н. Спасібёнак – сельскія Саветы і СВК; Л. Корнышаў, – кіраўнікі прадпрыемстваў і іх намеснікі. Сярод зборных каманд працоўных калектываў: у мужчын – Я. Зязюля (да 40 год), А. Жалткевіч (40 і старэй), у жанчын адпаведна – І. Новік і Т. Ілюшчанка. У перацягванні каната самымі мацнейшымі былі выратавальнікі Глыбоцкай РАНС.



**Перацягванне каната.** *Фота Я. Самсонава.*




**Глыбоцкая «Беларуская лыжня-2012» прайшла ў ваколіцах возера Белае.** *Фота Я. Самсонава.*

## Зацверджаная праграма святкавання 1150-годдзя Полацка

Рэспубліканскі аргкамітэт па падрыхтоўцы і святкаванні 1150-годдзя Полацка на чале з намеснікам прэм'ер-міністра Беларусі Анатолем Тозікам на паседжанні 8 лютага разгледзеў і зацвердзіў праграму і фармат святкавання памятнай даты.

Таксама на паседжанні зацверджаны склад рэжысёрска-пастановачнай групы, у якую ўвайшлі вядомыя спецыялісты ў сферы культуры, разглежаны варыянты сувенірнай і друкаванай прадукцыі, мерапрыемствы па добраўпарадкаванні горада. Распрацавана некалькі новых турыстычных маршрутаў, вырабляецца тэматычная сацыяльная рэклама, вядзецца работа па прыцягненні да святкавання круглай даты спонсараў.

У плане будучых мерапрыемстваў – правядзенне міжнародных навукова-практычных канферэнцый, праваслаўных канферэнцый з удзелам прадстаўнікоў гарадоў трох Святых Сафій (Ноўгарада, Кіева і Полацка), фестывалю праваслаўнай творчасці, міжнароднага фестывалю опернага мастацтва ля сцен старажытнай Сафіі, выставы фатаграфіі і дэкаратыўна-прыкладной творчасці, кірмашу рамёстваў. Спецыяльна для гасцей будзе працаваць Горад майстроў.

Урачыстасці з нагоды 1150-годдзя Полацка стартуюць увечары 25 траўня і працягнуцца па 5 чэрвеня. На цырымонію плануецца запрасіць замежных гасцей, дыпламатычны корпус, прадстаўнікоў гарадоў-пабрацімаў Полацка.

Як паведамлялася, ЮНЕСКА ўключыла 1150-годдзе Полацка ў каляндар памятных дат 2012–2013 гадоў.

У штаб-кватэры гэтай міжнароднай арганізацыі ў Парыжы ў кастрычніку 2012 пройдзе выстава. Пачалася падрыхтоўка да экспазіцыі, у якую будуць уключаны фатаграфіі, якія расказваюць аб мінулым і сучаснасці Полацка. Таксама пры фінансавай падтрымцы ЮНЕСКА ў Полацку пройдзе навукова-практычная міжнародная канферэнцыя «Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі».

Першая сталіца Беларусі, горад Полацк быў пабудаваны на адным з маршрутаў вялікага гандлёвага шляху «з варагаў у грэкі», пры ўпадзенні ракі Палаты ў Заходнюю Дзвіну. У Полацку зарадзілася беларуская дзяржаўнасць і культура, тут з’явіліся на свет Еўфрасіння Полацкая, Францыск Скарына, Сімяон Полацкі. Упершыню Полацк згадваецца ў «Аповесці мінулых гадоў» за датай 862 год. Горад стаў цэнтрам Полацкага княства, якім правіла самастойная дынастыя. Адно з самых старажытных усходнеславянскіх княстваў праіснавала больш за тры стагоддзі.

*БелТА*

## Чацвёрты электрацягнік для рэгіянальных ліній БЧ прыбыў са Швейцарыі

**Чацвёрты электрацягнік для рэгіянальных ліній (ЭПр) Беларускай чыгункі прыбыў са Швейцарыі.**

Як паведамілі БелаПАН у прэс-службе БЧ, цяпер састаў знаходзіцца ў лакаматыўным дэпо Баранавічаў, дзе будзе праведзена яго зборка і мытнае афармленне.

Чакаецца, што ў найбліжэйшыя дні ЭПр будзе адпраўлены ў сталіцу для наладкі і перадэксплуатацыйных выпрабаванняў. Абслугоўваць і рыхтаваць яго ў рэйс будуць у маторавагонным дэпо «Мінск».

Нагадаем, 19 сакавіка 2010 года БЧ заключыла кантракт са швейцарскай кампаніяй Stadler Bussnang AG на выраб і пастаўку да канца 2012 года 10 сучасных электрацягнікоў для новага фармату пасажырскіх перавозак, шэсць з якіх прызначаныя для гарадскіх ліній, чатыры — для рэгіянальных.

Такім чынам, у Беларусь паступілі ўсе чатыры электрацягнікі для рэгіянальных ліній, прадугледжаныя кантрактам. Што да электрацягнікоў гарадскіх ліній, то тры з іх былі пастаўленыя ў краіну ў 2011 годзе і яшчэ тры паступяць у 2012 годзе.

*Марына Носава, БелаПАН.*

## У студзені 2012 года кожнае другое дарожнае здарэнне адбылося з удзелам пешаходаў

**У студзені 2012 года кожнае другое дарожнае здарэнне з пацярпелымі адбылося з удзелам пешаходаў, усяго — 190 ДТЗ. Пра гэта паведамілі ва ўпраўленні Дзяржаўтаінспекцыі МУС Беларусі.**

60% дарожных здарэнняў было ўчынена па віне вадзіцеляў, 78 пешаходных трагедый — па віне саміх пешых удзельнікаў дарожнага руху, якія ў кожным трэцім выпадку знаходзіліся ў стане алкагольнага ап'янення. Як вынік, у ДТЗ па ўласнай віне загінуў 21 пешаход, яшчэ 57 атрымалі траўмы і калецтвы. 65 дарожна-транспартных здарэнняў адбылося ў выніку невыканання правілаў праезду пешаходных пераходаў.

Паводле звестак УДАІ МУС, 10—12 лютага на дарогах краіны адбылося 821 дарожна-транспартнае здарэнне з матэрыяльным уронам, у 27 — пацярпелі людзі. Загінулі чатыры чалавекі, 27 атрымалі раненні рознай ступені цяжкасці. Сярод загінулых тры пешаходы і адзін веласіпедыст.

10 лютага паблізу вёскі Бахаровічы Пухавіцкага раёна ў 20.00 25-гадовы жыхар пасёлка Праўдзінскі, кіруючы «ВАЗ 2109», учыніў наезд на 39-гадовага мясцовага жыхара, які стаяў на праезнай частцы. Пацярпелы ад атрыманых траўм памёр на месцы здарэння.

У гэты ж дзень у Чашніках 18-гадовы студэнт, жыхар Мінска, кіруючы «Нісан Ванетэ», пры праездзе ўчастка дарогі з закругленнем управа, учыніў наезд на пешаходаў 1967 і 1976 гадоў нараджэння, якія рухаліся па правай абочыне ў сустрэчным напрамку. Больш маладога пешахода адкінула на паласу сустрэчнага руху, дзе на яго наехаў «Фальксваген Пола», які рухаўся ў сустрэчным напрамку. «Нісан» з'ехаў у левы кювет і ўрэзаўся ў плот. У выніку пешаходы з цяжкімі пашкоджаннямі былі памешчаныя ў Чашніцкую цэнтральную раённую бальніцу, дзе адзін з іх памёр.

*Вячаслаў Будкевіч, БелаПАН*

## Беларус Аляксей Іваноў выйграў 76-кіламетровы лыжны марафон у Францыі

**У французскім Ламура-Мут 12 лютага прайшла 76-кіламетровая марафонская гонка сярод мужчын. Перамогу ў ёй атрымаў 31-гадовы віцебчанін Аляксей Іваноў.**

Ён пераадолеў дыстанцыю за 3 гадзіны 25 хвілін 13,6 секунды. Сярэбраны прызёр італьянец Серджыё Банальдзі прайграў беларусу 0,4 секунды. Трэцяе месца падзялілі яшчэ адзін італьянец Фларыян Костнер і чэх Марцін Коўкал — абодва адсталі ад Іванова на 0,9 секунды.

Пасля Алімпіяды ў Ванкуверы Іванова не атэставалі ў нацыянальную каманду, і цяпер беларускі лыжнік выступае за аўстрыйскую дружыну Skinfit Racing.

*Аляксандр Ванковіч, БелаПАН.*

## У Міністэрства аховы здароўя Беларусі будзе свой геральдычны знак-эмблема

Аляксандр Лукашэнка сваім указам заснаваў геральдычны знак-эмблему Міністэрства аховы здароўя і нагрудны знак адзнакі Міністэрства аховы здароўя «Ганаровы донар Рэспублікі Беларусь».

Як паведаміла прэс-служба кіраўніка дзяржавы, рашэнне прынята ў мэтах захавання і развіцця гістарычных традыцый Міністэрства аховы здароўя, а таксама стымулявання донарскага руху.

Указам зацверджаны палажэнні аб знаках, іх апісанне і выява.

*БелаПАН.*

# Мястэчка Глыбокае

## Гаспадарка мястэчка Глыбокае на пачатку XIX стагодзьдзя

■ **Аляксандр Івашчонак**, *бакалаўр гісторыі.*

**Публікацыя захоўвае стыль і правапіс аўтара.**

**Працяг.**

*Пачатак у №4(616) , №5 (617) , №6 (618) за 2012 год.*

### Брацтва сьв. Язэпа ў Глыбокім (1669-1864)

Брацтва сьв. Язэпа было не толькі першай арганізаванай супольнасьцю веруючых людзей у гісторыі Глыбокага, але таксама і першай арганізацыяй глыбачан на грамадскім узроўні. Гэтая супольнасьць была шкаплерным брацтвам, якое арганізоўвалі зазвычай манахі Кармэліты пры сваіх кляштарах, каб пашыраць сярод веруючых набажэнства да сьвятога шкаплера (скапулярый) – шаты, што была часткай манаскага адзеньня Кармэлітаў, якую яны атрымалі згодна з традыцыяй ад Маці Божай, і зь якой былі зьвязаныя вялікія адпусты. З цягам часу гэтую шату ў скарочаным выглядзе пачалі насіць таксама і звычайныя вернікі. Для распаўсюджаваньня шкаплера Кармэліты і закладалі шкаплерныя брацтвы.

Такога тыпу арганізацыі веруючых былі велізарнай навіной, асабліва ў Глыбокім у XVII ст. Безумоўна, глыбачанаў вабілі вялікія ласкі, якія даваў шкаплер, а перадусім за памерлых, выбаўленьне душы з чысьцілішча – такі быў дух эпохі і людзі, якія жылі тады думалі толькі пра жыцьцё вечнае ў будучым сьвеце. (Напрыклад, Корсак запісаў усю сваю маёмасьць манахам, маючы на мэце толькі збаўленьне сваёй душы.) Але не трэба забывацца, што Брацтва вабіла не толькі ласкамі, але таксама магчымасьцю ўдзелу сьвецкіх людзей у рэлігійным жыцьці ў арганізаванай форме.

Само Брацтва сьв. Язэпа ў Глыбокім было закладзенае на моцы брэвэ (breve) папы Клімэнта IX з дня 22 траўня 1669 г. і са згодай віленскага біскупа з дня 29 траўня 1670 г. (Варта памятаць, што ў Глыбокім былі яшчэ два іншыя брацтвы: Брацтва сьв. Барбары і Брацтва Маці Божай Шкаплернай.)

Структура брацтва была ўнармаваная канстытуцыяй папы Клімэнта VIII «Quaecumque» з дня 7 сьнежня 1604 г. Такім чынам, глыбоцкае брацтва мела свой статут і кіраўніцтва. Мела таксама свайго прамотара (promotor) – манаха, адказнага за гэтае брацтва. Адным са слынных прамотараў глыбоцкага Брацтва сьв. Язэпа быў айцец Нарцыз Валыньскі, кармэліт босы з Глыбокага, а перадусім актыўны ўдзельнік паўстаньня 1831 г., як акрэсьліў яго Мураўёў “вельмі небясьпечны паўстанец”. Менавіта дзякуючы айцу Валыньскаму члены Брацтва сьв. Язэпа ўзялі ўдзел у паўстаньні.

Вяртаючыся да структуры брацтва, то акрамя прамотара (духоўнай асобы) мела яно сваё кіраўніцтва – сьвецкія асобы, выбары якога адбываліся вельмі дэмакратычна дый штогод 16 ліпеня ў сьвята Маці Божай Шкаплернай. (У Глыбокім яшчэ перад II сусьветнай вайной была традыцыя браць шлюб ў касьцёле менавіта 16 ліпеня).

Трэба аднак зазначыць, што брацтва было вельмі незалежным: мела свае алтары, свае інтэнцыі імшальныя, сваю касу і свае грошы, роля манаха прамотара была абмежаваная толькі да духоўнай сфэры. Галоўную ролю ў жыцьці брацтва адыгрывала яго кіраўніцтва. У склад кіраўніцтва брацтвам уваходзілі:

1. Прэфэкт – той, хто наглядаў за захаваньнем статуту брацтва і трымаў ключ ад касы і пячатку брацтва. (Варта зьвярнуць увагу, што пячатку трымала не духоўная асоба, а сьвецкая).
2. Намесьнік альбо віцэ-прэфэкт.
3. Сем дарадчыкаў альбо консулаў, двое зь іх былі арбітрамі.
4. Скарбнік, які вёў кнігу прыбыткаў і расходаў, прымаў ахвяры і складкі, а таксама займаўся сьпіскам дабрачынцаў.
5. Пісар альбо сакратар вёў кнігу правоў і пратаколаў паседжаньняў брацтва.
6. Закрысціянін, які апекаваўся алтаром і капліцай брацтва, пільнаваў літургічныя шаты і посуд.



**Капліца сьв. Крыжа. Не захавалася.**
Сітуацыя вымагае зьмясціць выяву капліцы сьв. Крыжа паўторна (гл. *№4)*, так як тэкст гэтага матэрыялу і тэкст матэрыялу на стар. 11 ізноў непасрэдна зьвязаны з гэтай сьвятыняй.



**Гэрб Брацтва сьв. Язэпа, срэбра, ракако, Глыбокае, 2-я пал. XVII ст.**

Усе вышэй пералічаная асобы ўваходзілі ў склад кіраўніцтва брацтвам. Такім чынам, гэтае кіраўніцтва прызначала сярод членаў брацтва наступныя абавязкі:

1. Пракуратар алтара брацтва.
2. Харужы.
3. Ялмужнікі – тыя, хто хадзіў зьбіраць грошы.
4. Маршалкі.
5. Інфірмэры – тыя, хто апекаваліся хворымі.

Члены Брацтва сьв. Язэпа ў Глыбокім павінныя былі кожную нядзелю, пасьля першай імшы (а 08.00 з выстаўленьнем Найсьвяцейшага Сакрамэнту з суплікацыяй) сьпяваць Каронку да Маці Божай Шкаплернай – жанчыны і мужчыны наперамен, а таксама а 15.00 сьпявалі нядзельныя нешпары (вячэрня), а пасьля іх, у капліцы Маці Божай Падхорнай, члены брацтва сьпявалі Каронку *“Kto chce Pannie Maryi służyć”*.

А ў вялікія сьвяты члены брацтва разам з манахамі прымалі ўдзел у працэсіях перад суммай (апошняя недзельная імша, якая адпраўлялася а 11.30) і нешпарамі.

У Глыбоцкім прыкляштарным касьцёле Унебаўзяцьця Найсьвяцейшай Панны Марыі Брацтва сьв. Язэпа мела свой алтар сьв. Язэпа, з вобразам сьв. Язэпа з Панам Езусам, гэты вобраз лічыўся цудадзейным і меў 7 вотаў (ватыўныя дары за вылячэньне). На алтары мелі таксама свой пацыфікал – рэлікварый у выглядзе манстранцы для пацалаваньня вернікамі.

Брацтва сьв. Язэпа ў Глыбокім было ня толькі рэлігійнай супольнасьцю, але першай грамадскай арганізацыяй мястэчка, якое акрамя сваіх духоўных абавязкаў займалася таксама грамадскай дзейнасьцю: збірала грошы на рамонт каплічак і алтароў, арганізоўвала працэсіі, займалася хворымі, а таксама патрыятычнай дзейнасьцю, найлепшай праявай таго быў удзел членаў брацтва ў паўстаньні 1831 г. Аж да свайго зьліквідаваньня ў 1864 г. брацтва адыграла важную ролю ў фармаваньні грамадска-рэлігійнага жыцьця мястэчка Глыбокае.

### Капліца сьв. Крыжа

Сёньня мала хто ведае, што ў мястэчку Глыбокае акрамя фары сьв. Тройцы, касьцёла Унебаўзяцьця Найсьвяцейшай Марыі Панны, які належаў кляштару Кармэлітаў босых, капліцы сьв. Эльяша (Ільлі) на Копцеўцы, капліцы сьв. Язафата пры дарозе ў Беразьвечча, існавала таксама яшчэ адна капліца, а менавіта капліца сьв. Крыжа.

Капліца сьв. Крыжа знаходзілася на тэрыторыі глыбоцкага кляштара Кармэлітаў босых і была найстарэйшай сакральнай пабудовай усяго манаскага комплекса, а быць можа, нават і ўсяго мястэчка Глыбокае. Час узнікненьня гэтае капліцы сягае да перыяду будаваньня кляштара, а дакладней яго падзямельляў. Як вядома, першыя манахі Кармэліты з’явіліся ў Глыбокім у 1640 г., яшчэ пры жыцьці фундатара Язэпа Корсака, бо менавіта ён сам распачаў новую фундацыю.

Узьнікае пытаньне: навошта была пабудаваная капліца сьв. Крыжа, пра якую няма мовы ў тэстамэнце Корсака, а тым больш пры яго жыцьці? Адказ на гэтае пытаньне вельмі просты. Манахі, якія прыехалі ў мястэчка, былі павінныя недзе маліцца, бо як вядома з тэстамэнту: ужо ад 1639 г.: *“aby mszą jedną na każdy dzień za grzechy moje durante vita mea …także drugą mszą na każdy dzień pro animabus in purgatorio … ofiarować będą.”*

Гэта значыць, што манахі, яшчэ пры жыцьці Корсака, павінныя былі штодзённа адпраўляць дзьве імшы: адну за самога Корсака, а другую за душы цярпячых ў чысьцілішчы.

Дзе манахі маглі адпраўляць свае набажэнствы? Фара сьв. Тройцы была асьвечаная ў 1643 г., але манахі не маглі там маліцца, так як гэта была сьвятыня парафіяльная, дзе адпраўляў набажэнствы пробашч, акрамя таго, каб манахі маглі там маліцца, былі б павінныя зьвярнуцца з адпаведняй просьбай да біскупа, але гэта вельмі складана і малаверагодна. Манахі, запрошаныя Корсакам, да часу пабудаваньня кляштара і касьцёла збудавалі (альбо збудаваў яе Корсак) для сябе невялікую капліцу, каб магчы спакойна адпраўляць свае набажэнствы.

Чаму менавіта такая версія?

Касьцёл пры кляштары, як і сам кляштар, будавалі вельмі доўга. У 1644 г. у глыбоцкіх Кармэлітаў адбылося ўжо першае пахаваньне – а дакладней у яго падзямельлях быў пахаваны земскі судзьдзя з Полацка Аляксандр Тышкевіч, дзядзька глыбоцкага прыёра айца Язафата ад Унебаўзяцьця НМП Тышкевіча. Як вядома, пахавальная імша дый экзэквіі адбыліся менавіта ў капліцы сьв. Крыжа, бо касьцёл Кармэлітаў яшчэ ня быў пабудаваны.

Дзесьці каля 1654 г. былі скончаныя толькі падзямельлі. Што тычыцца самога кляштара, то яго пабудова была скончаная ў часе прыярату айца Пёрта ад Маці Божай, які быў прыёрам у Глыбокім ад 1661 да 1664 г. Што тычыцца касьцёла пры кляштары, то, як вядома, яго пабудова скончылася асьвячэньнем ў 1735 г.

З вышэй сказанага бачна, што існаваньне капліцы сьв. Крыжа было неабходным, па крайняй меры да 1664 г., пакуль гэтая капліца замяняла непабудаваны касьцёл. Дарэчы сама архітэктура капліцы адпавядала часу сваёй пабудовы, так як ўяўлала сабой больш абароннае збудаваньне, чым сакральнае.



**Пячатка Глыбоцкага Брацтва сьв. Язэпа. На пячатцы – выява сьв. Язэпа з Дзіцём і надпіс *«Sigillum Confraternitatis Ioszef rok 1766» – «Пячатка Брацтва Язэпа год 1766»* – гэтую пячатку трымаў прэфект брацтва.**

*Пячатка пададзеная ў люстраным адбітку.*

Капліца сьв. Крыжа выглядала наступным чынам: была пабудаваная ў плане квадрату, тыповай абарончай форме, з масіўнымі сьценамі даўжынёй 25,5 аршынаў, а вышынёй пад шчыт 6 аршынаў, мела толькі два вакны з жалезнымі кратамі. Такая малая лічба вакон дадаткова сьведчыць пра абарончы характар, а таксама пра час пабудовы, які можна ўсталяваць сьмела на 1642 г. (альбо нават 1641 г.)

Капліца была пабудаваная адразу пры ўваходзе на пляц перад кляштарам, каля брамы на правы бок. За капліцай пазьней быў зроблены аптэчны агарод для розных лекавых зёлаў.

Унутры капліца мела фрэскі розных сьвятых. На жаль, не вядома, якія дакладна былі гэтыя фрэскі, каго прадстаўлялі, можна толькі здагадвацца – быць можа, гэта былі сьвятыя Кармэліты: сьв. Ян ад Крыжа, сьв. Тэрэза ад Езуса і гд. Вядома толькі, што для людзей канца XVIII ст. гэтыя фрэскі падаваліся “старасьвецкімі”, што дадаткова сьведчыць пра тое, што капліца была пабудаваная і аздобленая яшчэ ў XVII ст.

Капліца сьв. Крыжа мела адзін драўляны алтар з карнізамі і штыкецікам сталярскай працы, а над алтаром быў вялікі крыж з фігурай укрыжаванага Збаўцы. У XVIII ст. былі зробленыя дадатковыя вокны па баках ад крыжа над алтаром.

Капліца была пакрытая дахоўкай зь невялікім жалезным крыжам наверсе.

Сёньня гэтая капліца ўжо не існуе, і нават сьледу пасьля яе не засталося. Сумна. Глыбачане па сёньняшні дзень ня ведаюць, што страцілі, і нашчадкамі якіх вялікіх людзей зьяўляюцца.

*Працяг будзе.*

# Работа ідзе ва ўзмоцненым рэжыме

■ А. Ю. Рацьковіч,
*дзяржаўны інспектар Глыбоцкага міжраённага аддзялення філіяла «Энерганагляд».*

**Зіма ў разгары і сёлета, як ужо даўно не было, зіма паказвае сябе дастаткова нізкімі тэмпературамі вонкавага паветра. Што ж робіцца для забеспячэння надзейнай працы цеплаўстановак і цеплавых сетак ва ўмовах нізкіх тэмператур вонкавага паветра?**

У шматлікіх арганізацыях (жыллё, адукацыя, ахова здароўя) створаныя аператыўныя групы для прыняцця неабходных мер па забеспячэнні належнай работы электра-, цеплаўстановак і інжынерных сетак, створаны неабходны запас матэрыялаў, абсталявання і запасных частак. З абслуговым персаналам праведзеныя інструктажы па дзеяннях ва ўмовах нізкіх тэмператур вонкавага паветра. Начальнікамі і галоўнымі інжынерамі ЖКГ праводзіцца сталы кантроль за цеплазабеспячэннем падведамных дамоў і выкананнем тэмпературнага рэжыму ў жылым фондзе. Ва УП ЖКГ Глыбоцкага раёна на гэты перыяд узмоцнена аварыйна-дыспетчарская служба і персанал УП ЖКГ Глыбоцкага раёна працуе без выходных дзён ва ўзмоцненым рэжыме. Вядзецца сталая праца па рэгуляванні падачы цяпла ў жылыя дамы, дзіцячыя дашкольныя ўстановы, школы, установы аховы здароўя.

Менавіта зараз у перыяд рэзкага зніжэння тэмпературы вонкавага паветра «вылазяць на вонкі» недагляды і недахопы ў падрыхтоўцы да цеперашняга ацяпляльнага сезону. Мелі месца некаторая колькасць адказаў работы цеплавых сетак, якія былі, на шчасце, аператыўна ўхіленыя.

Менавіта ў гэтыя дні як ніколі актуальная фраза «Рыхтуй санкі ўлетку». Так, хто лепш падрыхтаваўся да зімы, той лепш пачуваецца ў перыяд маразоў.

І, нарэшце, ужо зараз неабходна пачынаць складаць мерапрыемствы па падрыхтоўцы да новага АЗП з улікам тых прарэхаў, якія выявіліся ў гэтым ацяпляльным сезоне.

# Шмат канфіскоўваецца незарэгістраванай зброі

■ А.Г. Абрамчык,
*дзяржаўны інспектар Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

Штотыдзень супрацоўнікі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету спыняюць парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства, затрымоўваюць парушальнікаў у лясах і на азёрах, у зімовы час асабліва шмат канфіскоўваецца незарэгістраванай зброі, гэтак жа выяўляецца значная колькасць парушэнняў правіл лесакарыстання. Асобныя грамадзяне ведаюць пра тое, што здзяйсняюць правапарушэнне, вывозячы дровы з лесу без дазволу службовай асобы лясніцтва, але ўсё адно парушаюць правілы. Можна яшчэ зразумець грамадзяніна, які як толькі знайшоў свабодную тэхніку, так і паехаў у лес за дровамі, але калі дзяржаўныя прадпрыемствы, якія займаюцца нарыхтоўкай драўніны, вывозяць яе без належных дакументаў, гэта – не зразумела. Так, у студзені і лютым 2012 года супрацоўнікамі Глыбоцкай міжрайінспекцыі двойчы правераны парадак вывазкі драўніны Глыбоцкай УП ЖКГ і абодва разы выяўленыя грубыя парушэнні запаўнення ўліковых дакументаў, што дазваляе нядобрасумленным працаўнікам здзяйсняць крадзяжы дроў. За дадзеныя парушэнні службовыя асобы панеслі пакаранне, а УП ЖКГ вынесена прадпісанне на ўхіленне недахопаў і недапушчэнні надалей падобных фактаў.

Па-ранейшаму шмат парушэнняў выяўляецца ў сферы вядзення паляўнічай гаспадаркі і паляванні ў арандатараў паляўнічых угоддзяў. Як правіла, усе парушэнні здзяйсняюцца з-за няведання заканадаўства або не правільнага яго ўжывання.

Так, 6 лютага 2012 года супрацоўнікамі Глыбоцкай міжрайінспекцыі каля 24 гадзін на тэрыторыі Мёрскага раёна за незаконную здабычу адной асобіны дзіка, вагой 60 кг., забароненым спосабам, затрыманы егер аднаго з арандатараў паляўнічых угоддзяў. Матэрыялы накіраваныя ў пракуратуру Мёрскага раёна для дачы прававой адзнакі дзеянням службовай асобы.

За студзень і два тыдні лютага супрацоўнікі міжрайінспекцыі канфіскавалі ў парушальнікаў 9 адзінак агнястрэльнай зброі.

8 лютага 2012 года адбылася нарада па падвядзенні вынікаў працы Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь, на якой падведзены вынікі працы ў прыродаахоўнай сферы, пастаўлены задачы на бягучы год. Асноўнымі задачамі Дзяржінспекцыі ў 2012 годзе з'яўляецца выяўленне грубых парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства ў паляўнічай гаспадарцы, лесакарыстанні і рыбалоўстве, няўхільнасць пакарання за браканьерства. **Па выніках працы за 2011 год начальнік Глыбоцкай міжрайінспекцыі Протас Аляксей Віктаравіч узнагароджаны граматай Сакратара Савета Бяспекі Рэспублікі Беларусь.**

Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць на тэлефон «гарачай лініі» Глыбоцкай міжрайінспекцыі : 8-02156-2-86-70, мабільныя тэлефоны інспектараў: 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49 (МТС).

# За 2011 год падатковымі органамі Беларусі праведзена звыш 13,5 тысячы пазапланавых праверак

За 2011 год падатковымі органамі Беларусі праведзена 13.518 пазапланавых тэматычных аператыўных праверак (за выключэннем праверак па пытанні выяўлення фактаў незарэгістраванай прадпрымальніцкай дзейнасці).

Як паведамляе прэсцэнтр Міністэрства па падатках і зборах, згаданыя мерапрыемствы ў цэлым забяспечылі выключэнне з ценявога абароту таварна-матэрыяльных каштоўнасцяў (ТМК) і грашовых сродкаў, у тым ліку па фактах незарэгістраванай прадпрымальніцкай дзейнасці, паводле папярэдняй ацэнкі, на 58 млрд. рублёў. Вернута ў даход дзяржавы ТМК на 30,5 млрд. рублёў.

За парушэнне парадку маркіроўкі кантрольнымі (ідэнтыфікацыйнымі) знакамі ў 2011 годзе арыштавана ТМК на 3,4 млрд. рублёў, вернута ў даход дзяржавы на 3 млрд. рублёў, што на 46,7% менш, чым за 2010 год.

*Аляксей Арэшка, БелаПАН*

## Глыбоцкі РАУС паведамляе:

■ А.І. Гігола,
*начальнік аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі Глыбоцкага РАУС.*

**За 2012 год**

**Павобласці:** уаднасінах грамадзян складзена 1022 адміністрацыйных пратаколы па арт. 12.43 КоАП Рэспублікі Беларусь (Выраб ці набыццё моцных алкагольных напояў (самагонкі), паўфабрыкатаў для вырабу (брагі), захоўванне апаратаў для іх вырабу) і за парушэнне Дэкрэту №11 Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 09.09.2005 гады «Пра ўдасканаленне дзяржаўнага рэгулявання вытворчасці, звароту і рэкламы піва, алкагольнай нехарчовай спіртазмяшчальнай прадукцыі і нехарчовага этылавага спірту», канфіскавана 208255 літраў фальсіфікаваных спіртных напояў і самагоннай брагі, знішчана 7 міні-заводаў, канфіскавана 98 самагонных апаратаў .

**Па Глыбоцкім раёне:** у адносінах грамадзян складзена 37 адміністрацыйных пратаколаў, канфіскавана 6225 літраў фальсіфікаваных спіртных напояў і самагоннай брагі і 10 самагонных апаратаў. Васямнаццаць чалавек загінула ад атручвання этылавым алкаголем, з іх 14 мужчын і 4 жанчыны.




**Віншуем з 50-годдзем сумеснага жыцця!**

Пусть солнце сияет за вашим окном,
Пусть радость и мир не покинут ваш дом,
Пусть мимо проходят печали, невзгоды,
Здоровья вам, счастья на долгие годы.

*Дзеці, унукі, праўнук.*

# Па Skype распаўсюджваецца новы вірус

Па прагpаме Skype у апошнія дні распаўсюджваецца новы вірус. Шэраг карыстальнікаў Skype ад сяброў атрымалі спасылку, у якой прапануецца пагледзець фатаграфіі, калі перайсці па гэтай спасылцы, то вірус паражае камп'ютар і распаўсюджваецца далей.

Вірус стварае з людзей, якія ёсць у кантактах, групу і ўсім рассылае паведамленне: haha foto http://goo.gl/…?Facebook.com-IMG....JPG.

Калі карыстальнік пяройдзе па спасылцы, то адкрываецца пошукавае акно, але ў ім няма ніякіх фатаграфій. Замест гэтага ў камп'ютар усталёўваецца шкодная праграма, якая працягвае рассылаць уяўную фатаграфію людзям, якія ёсць у кантактах.

Ёсць асцярогі, што гэты вірус можа збіраць і дадзеныя пра падключэнні.

Па гэтай прычыне перад тым, як перайсці па атрыманай спасылцы, рэкамендуецца даведацца ў знаёмага ці сябра, ці сапраўды ён паслаў вам спасылку, а таксама выкарыстоўваць антывірусныя праграмы.

*ru.DELFI.lt*

# Нацбанк зацвердзіў рашэнне аб выпуску купюры наміналам у 200 тысяч

**Нацыянальны банк Беларусі зацвердзіў рашэнне аб выпуску купюры наміналам 200 тысяч беларускіх рублёў. Адпаведная пастанова праўлення галоўнага банка краіны № 31 «Аб выпуску ў абарачэнне банкноты Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь узору 2000 года наміналам 200 000 рублёў» прынята 31 студзеня 2012 года.**

9 лютага дакумент зарэгістраваны ў нацыянальным рэестры прававых актаў, паведамілі ў Нацбанку.

Як паведамляла старшыня праўлення Нацбанка Надзея Ермакова, купюру наміналам 200 тысяч рублёў плануецца выпусціць у абарачэнне ў першым квартале 2012 года. На ёй будзе выяўлены «адзін з твораў беларускай архітэктуры». Які менавіта, у Нацбанку да ўводу новай купюры ў абарачэнне не раскрываюць.

1 студзеня 2000 года ў Беларусі былі ўведзеныя ў абарачэнне новыя банкноты Нацбанка наміналам 1, 5, 10, 20, 50, 100, 500, 1.000 і 5.000 рублёў, у 2001 годзе — 10.000 рублёў, у 2002 годзе — 20.000 і 50.000 рублёў, а ў 2005 годзе — 100.000 рублёў.

На сёння купюра ў 100 тысяч рублёў застаецца самай буйной з беларускіх купюр, што знаходзяцца ў абарачэнні, і эквівалентная 12 доларам ЗША па бягучым курсе, у той час як да трохразовай дэвальвацыі, якая адбылася на працягу 2011 года, была эквівалентная 33 доларам ЗША.

Купюра наміналам 200 тысяч беларускіх рублёў стане самай буйной і будзе эквівалентная прыкладна 25 доларам ЗША.

*Аляксей Арэшка, БелаПАН*

## МНС інфармуе на 14.02.2012 года:

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 227;
Гібель людзей – 32, з іх 2 дзіцяці;
Урон – 1151,3 млн. руб.
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 16;
Гібель людзей – 2, з іх дзяцей няма;
Урон – 99 400 000 руб.

